


**ЖАДАЮ ЎСІМ ДЗЕЦЯМ СМАЧНАГА ЯЙКА І НАЙПРЫГАЖЭЙШАЙ ПІСАНКІ-МАЛЯВАНКІ.**

**„ЗОРКА“**

**№ 16 (1132) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 22.IV.1979 г.**

**Паўлюк Прануза**

## ДЗВЕ САРОКІ

*Яны з лесу прыляцелі —*
*На нашай вуліцы жывуць*
*Адну завуць дзяўчынку — Нэлі;*
*Другую — Валяю завуць.*
*Як пачынаюцца ўрокі,*
*Яны чатыры-пяць гадзін*
*Трашчаць, трашчаць, нібы сарокі,*
*Здаецца, многа ў іх навін.*



## ЛІСКА

*Бегла ліска з лесу.*
*Стала ля крыніцы.*
*—Гусанькі, не бойцеся.*
*Я прыйшла напіцца.*
*Гаварыла ціха*
*Голасам прыгожым.*
*Каб іх не спалохаць*
*І не патрывожыць.*
*Зашумеў над лугам*
*Спачувальна вецер:*
*— Маладыя гусанькі,*
*Лісцы вы не верце.*
*Зашапталі згодна*
*Трапяткія хвалі,*
*Каб хітругі ліскі*



*І не падпускалі.*
*Гусанькі ўзняліся.*
*Над вадою — пыркі.*
*Толькі аблізнулася*
*Неахвотна ліска.*
*А сваёй суседцы*
*Мусіла хваліцца:*
*— Бегала на луг я,*
*Каб вады напіцца.*

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ

*Толькі сонца кіне*
*Першы свой прамень,*
*Устаеш ты з ложка:*
*— Мама, добры дзень!*
*На тваёй галоўцы*
*Матчына рука...*
*Па дарозе ў школу*
*Стрэў ты дружбака*
*І яму гаворыш*
*З ласкай: „Добры дзень!“*
*Ён табе ўсміхнуўся*



*І з табой ідзе.*
*Ён тваіму вітанню*
*І спатканню рад.*
*Светлымі здаюцца*
*Неба, кветкі, сад.*
*Шчырая сустрэча*
*Дабрыню нясе.*
*А скажыце праўду,*
*Робім так мы ўсе?*

## Я ЧАКАЮ МАМУ

*Я чакаю маму*
*Вечарам з работы,*
*Вывучыла ўрокі,*
*Вычысціла боты.*

*А сястры Наташы*
*Казку прачытала,*
*Накарміла кашай,*
*Каб спакойна спала.*

*Толькі мама прыйдзе*
*І расчыніць дзверы,*
*Я скажу: — Гатова*
*Для цябе вячэра.*



**Міхась Даніленка**

# САЛОДКАЯ ЦЫБУЛЬКА

Бабуля Марфа сабралася ісці ў гарод садзіць цыбулю. Маленькая Алеся ўвязалася за ёй:

— І я з табою.

— Добра, унучка. Пойдзем сёння цыбульку пасадзім.

На двары прыгравае сонейка. Вераб'і-жэўжыкі ў цёплым пяску купаюцца. Высока ў небе распластаў крылы і робіць плаўныя кругі злодзей-каршун; пэўна, сочыць хітрым вокам, калі якое кураня зазяваецца, ад сястрычак і маткі адстане.

За ліпамі паравалі грады. Бабуля пракопвала ямку і акуратна саджала ў яе цыбуліну.

— Вось гэты — з краю — радок пасадзіш ты, — паказала яна Алесі.

Дзяўчынка апусціла следам за бабуляй Марфай адну падрэзаную цыбуліну, другую, трэцюю. Як і бабуля, Алеська кожны раз паўтарала:

— Расці, цыбулька — агародная матулька. Не бойся халадоў — будзь заўсёды маладой...

Міналі дні, і з зямлі прадзяўбліся кволыя зялёныя расточкі. Каб іх не падмарозілі вясновыя халады, бабуля Марфа з Алеськай зрабілі над усходнямі буданчыкі з трэсак.

А потым настаў дзень, калі Алеська пайшла ў агарод і нарвала з таго крайняга радка сакаўных пёрцаў. Ела Алеська цыбулю з духмяным хлебам і пыталася ў бабулі Марфы:

— Чаго гэта, бабулечка, мая цыбулька такая салодкая і смачная?

— Гэта таму, унучка, што ты яе сваімі рукамі садзіла, — усміхнулася бабуля і ласкава пагладзіла льняныя валасы на Алесінай галоўцы.



З. Васкрасенская

# Эдэльвейс

(Пачатак у папярэднім нумары)

— Вы не ведаеце нашага Вільгельма Тэля?! — усклікнуў Марыс. — Хто ж не ведае пра выдатнага стралка, селяніна Вільгельма Тэля, які жыў у гэтых месцах! Тэль быў смелы і горды. Калі яго радзіму заняволілі аўстрыйцы, ён адмовіўся кланяцца капелюшу аўстрыйскага імператара, вывешанаму ў парку на жэрдцы. Пра гэта настаўнік нам яшчэ ў першым класе расказваў. Аўстрыйскі герцаг рашыў люта пакараць дзёрзкага паляўнічага і загадаў яму страляць у яблык на галаве сына. Тэль метка выстраліў, страла раскалола яблык папалам. Разам са сваім сынам Тэль пайшоў у горы, сабраў народ, і яны рушылі на аўстрыйскіх прыгнятальнікаў.

— Для герцага Тэль прыхаваў другую стралу і трапіў прама ў яго сабачае сэрца. Вось які наш Тэль, — заключыў Марыс, паблісківаючы вачыма. — Ён адзінадзіны на ўсім свеце.

— Але гэта было шмат стагоддзяў назад, Марыс, а цяпер у кожнай краіне ёсць свой Тэль, — сказаў рускі госць.

— І ў кожнай краіне працоўныя людзі паўстаюць супраць сваіх прыгнятальнікаў, — заўважыла жонка рускага.

— А хто ў вашай краіне Тэль? — запытаў Марыс.

— У нашай краіне не адзін Тэль, іх многа, — задумліва адказала жанчына. — І ва ўсіх краінах іх становіцца ўсё больш.

Ніколі яшчэ з Марысам не гаварылі, як з дарослым. Звычайна замежныя турысты распытвалі яго, дзе і што можна купіць. Яны куплялі ўсё: і цацкі, і старыя пачарнелыя ад часу званкі з шыі кароў, і скураныя альпійскія штаны. Яны вывозілі з сабой нават альпійскія сенажаці.

Марыс бачыў аднойчы, як турысты старанна выразалі кавалкі дзёрну з яркімі кветкамі. Дурныя, яны не разумелі, што кветкі, вынесеныя з гор, зараз жа загінуць. Каб альпійскія кветкі жылі, трэба было прыхапіць з сабою і кавалак чыстага блакітнага неба, і празрыстае паветра, і расталыя воды са снегавых вяршынь, і самую гару, на якой яны раслі...

Багатыя турысты шчодра плацілі за рэчы, але людзі іх не цікавілі.

А хіба ў грошах шчасце? Чалавеку трэба перш за ўсё добрае, сяброўскае слова — яно даражэй за грошы.

Гарачае сонца дакранулася да снегавой вяршыні. У даліну хлынулі змрок і холад.

Марыс неахвотна пайшоў спаць. Яму снілася ў гэтую ноч Расія — велізарная геаграфічная карта, і на ёй Сувораў са сваімі цуда-волатамі; і Вільгельм Тэль, вельмі падобны да рускага госця.

* * *

Калі сонца выпусціла з-за гор свае першыя праменні-стрэлы, Марыс ускочыў з ложка, ціха свіснуў Джыма, і яны памчаліся на ўцёс. Марыс падперазаў сябе вяроўкай паверх скураных штаноў.

— Ты не бойся, Джым, — заспа-

койваў ён свайго сябра, які паскугольваў ад страху, — мы здабудзем гэтыя кветкі, абавязкова здабудзем.

Хлопчык замацаваў другі канец вяроўкі за дрэва і пачаў спускацца па стромкай сцяне ўцёса. Вось ужо добра відаць пад нагамі кусцік белых кветак, апошні бутон распусціў белыя пальчыкі, падобныя на ільдзінкі, апушаныя шэранню. Яшчэ крыху... яшчэ... Вяроўка нацягнулася, як цяціва, а да кветкі не дастаць. Вецер калыхаў пад нагамі Марыса вершаліны дрэў і агаляў унізе бясконцыя ўступы і прорвы.



Марыс адняў правую руку ад вяроўкі, ухапіўся за корань дрэва і павіс уніз галавой над зялёным бяздоннем. Потым трошкі гайдануўся і, наблізіўшы твар да кветкі, адкусіў сцябло ля самага кораня.

Наверсе ён аддыхаўся, адвязаў вяроўку і навыперадкі з Джымам памчаўся ўніз, у вёску, прыкрываючы далонню каштоўную здабычу.

Задыхаўшыся, уляцеў у дом:

— Дзе нашы госці?

— Пайшлі на досвітку, — адказала маці. — А дзе ж ты прападаў? Забыўся, што кароў трэба гнаць на пашу?

Марыс кінуўся з дому. Перабег цераз мост, агледзеўся. Па якой сцяжынцы яны пайшлі?.. Хіба пазнаеш?

Ён успомніў, што госць называў сваю жонку Надзюша. Хлопчык паднёс да рота руку і закрычаў:

— На-дзю-ша-а!

„Юша-а! Юша-а! Юша-а — прашалясцела рэха ў гарах.

„А як завуць самога рускага?“ — пачаў успамінаць Марыс і не мог успомніць.

— Тэ-э-эль! Тэ-э-эль! — клікаў ён і прыслухоўваўся.

„Эх, не ведалі яны, які багаты падарунак я ім падрыхтаваў! — падумаў хлопчык. — Чаму яны пайшлі так рана? І чаму я адразу не сказаў ім, што хачу падарыць гэтыя цудоўныя кветкі? Куды яны пайшлі?“

Марыс стаяў і глядзеў на зоркі эдэльвейса: кветкі былі быццам сатканы з блакітных сняжынак і пакрыты пушынкамі шэрані.

— На-дзю-ша-а! На-дзю-ша-а! — крычаў Марыс.

„Юша-а! Юша-а!“ — клікалі горы.

КОНКУРС МАЛЮНКАЎ

# „КОСМАС У ВАЧАХ ДЗІЦЯЦІ“

Хто з нас не любіць маляваць? Цудоўна самому глядзець, як з-пад алоўка вырысоўваюцца задуманыя постаці, дрэвы, гарады, сонца і ўвесь-увесь свет, такі, якім бачыць яго наша вобразнае ўяўленне. А потым — потым бярэм пэндзэль і вось ужо мора робіцца сінім-сінім, сонца пасылае цёплыя праменні і зацвітае вясна. Хораша робіцца на душы і радасна.

Або нейкае незабыўнае ўражанне — паездка ў Варшаву ці ў Белавежу, выгляд аблітай сонцам палянкі з першымі веснавымі кветкамі — як міла гэта маляваць!

Але сёння — сёння зусім іншая справа. Сёння будзем маляваць Космас! Той, які мы бачылі на фатаграфіях, зробленых касманаўтамі, у тым ліку і нашым Міраславам Гермашэўскім, а таксама і той, які мы самі сабе ўяўляем, аб якім дадумваемся, і якім яго бачым у будучыні. Гэтую тэму прапануюць нам Ваяводскае праўленне Таварыства польска-савецкай дружбы, Беластоцкая куратарыя, а таксама аддзелы Таварыства савецка-польскай дружбы ў Гродне і Вільне. Гэта яны супольна прапануюць усім дзецям, незалежна ад узросту, вучням падставовых школ прыняць удзел у конкурсе пад лозунгам „Космас у вачах дзіцяці“. Заданне конкурсу — шырэй папулярызаваць дасягненні савецкай касманаўтыкі сярод дзяцей і школьнай моладзі, паглыбляць і развіваць ідэю дружбы і супрацоўніц-



**Копія малюнка, які прыслаў на конкурс вучань Падставовай школы № 14 з Беластока Кшыштоф Шацкі.**

тва паміж польскім і савецкімі народамі.

Кожны вучань падставовай школы можа прыслаць адзін або некалькі малюнкаў (могуць гэта быць таксама і графікі, выкляянкі, выдзяранкі ці іншыя мастацкія формы выканання карцінкі) фарматам школьнага блока для малюнкаў (могуць быць большыя і меншыя). Абавязкова на кожным малюнку на адвароце павінна быць напісана імя і прозвішча, а таксама ўзрост аўтара і адрас школы.

У верасні конкурснае журы ацэніць усе прысланыя малюнкі, найлепшыя будуць узнагароджаны, а потым усе малюнкі пойдуць на выстаўку. Агледзяць яе спачатку жыхары Беластока, а потым гэтая ж выстаўка паедзе ў Гродна, дзе будзе экспанавацца ў палацы піянераў, а пазней і ў Віленскім палацы піянераў.

Як бачыце, варта пастарацца намаляваць прыгожа, і прыемна ж ведаць, што ваша творчасць будзе нават за граніцай.

Малюнкі трэба высылаць да канца навучальнага года, гэта значыць, да 5 чэрвеня на адрас: Ваяводскае праўленне ТППР, 15-432 Беласток, вул. Сянкевіча 3. А на канверце робім дапісак „Конкурс малюнкаў“.

„Зорка“ жадае ўсім малым мастакам першых, найлепшых узнагарод.



## Пішуць школьнікі



### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

Мяне завуць Аня. Я вучуся ў сёмым класе. У мяне ёсць дваюрадны брат Славік. Я яго вельмі люблю. Высылаем табе малюнак, які трэба было расфарбаваць. Славік маленькі, яму толькі шэсць год. Але ён казаў, якія колеры рабіць, а я фарбавала. Славік жыве ў Беластоку, але часта прыязджае да сваёй бабулі, што жыве недалёка ад нас.

Я ў школе вывучаю беларускую мову. Маю адны пяцёркі. Я вельмі люблю сваю мову. І падумала, што добра будзе напісаць табе, „Зорка“, пісьмо і малюнак паслаць. Ён нам вельмі падабаўся. Мая мама казала, што мы прыгожа памалявалі, і пахваліла фантазію Славіка. Можа ён і табе падабаецца? Можа напішаш? На другой старонцы карткі ёсць для цябе малюнак ад Славіка. Выбач, што ён яшчэ не такі харошы, але ж Славік яшчэ маленькі, праўда?

**З паважаннем, Аня Карнілюк**



**А вось малюнак Славіка. Гэта ён з кветкамі для „Зоркі“.**

# Пазнаёмімся

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 3, кв. 4. Вара Пляскіна, вучаніца 3 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 10, кв. 50. Таня Казанкова, вучаніца 3 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 98, кв. 19. Валя Загароўская, вучаніца 3 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 98, кв. 53. Света Ніціеўская, 10 гадоў, вучаніца 3 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 14, кв. 28. Лена Іўкіна, вучаніца 3 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 21, кв. 33. Іра Фралова, вучаніца 4 класа.

* ✲ *

БССР, 220012, г. Мінск-12, вул. К. Чорнага, 34, кв. 25. Эльвіра Боцян, вучаніца 4 класа.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 83, кв. 44. Галя Радзіеўская, вучаніца 7 класа.



**Памалюй пеўніка каляровымі алоўкамі.**

Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 **Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**